Пятніца, 12 сьнежня 1919 г.

# БЕЛАРУСКАЕ ЖЫЦЬЦЁ.

ІЛЮСТРАВАНАЯ ЧАСОПІСЬ

Год I. друкуецца у Менску. № 22.



Беларускіе тыпы с Піншчыны.

## Між двух агнёў.

Расійскае грамадзянство ня толькі у бальшавіцкай Расіі, але і тут на нашай зямлі ня прыхільна да справы беларускай і с тугой глядзіць на усход, дзе час ад часу паяуляецца зорка то Колчака, то Дэнікіна, то Юдэніча У сваіх варожых адносінах да нашай справы даходзяць да таго, што гатовы на уселякія правакатарскіе способы, каб толькі апаганіць нас у вачох нашых суседзяу, а асобліва тых, хто мае цяпер сілу на нашай зямлі.

З другога боку—значная частка польскага грамадзянства слухае гэтых ядавітых шэпаценьняу, не бачучы, што выцягнуушы да нас прыхільна руку паразуменьня, зрабіла-б карысную работу і для сваей бацькаушчыны, і для нас.

На жаль—як мы ужо не раз пісалі—розные адказные пасады у ачышчаных ад бальшавікоу „усходніх землях“ папалі у рукі людзей, каторые замест будаваць залаты мост згоды, сваей політычнай безтакнасьцю руйнуюць тые прыязные адносіны, якіе наладзіліся між польскім і беларускім грамадзянствам. Гэтые сляпые у сваім шовінізме чыноунікі—агалеушые ды неагалеушые паны, быушые царскіе слугі і г. п. элемэнты—ня хочуць сьцяміць таго, што Беларусь—гэта не пусты зык, што беларускі народ—гэтая недауна безгалосая маса—ужо с кожным днем усе болей ды болей усьведамляецца нацыянальна. што правы да незалежнага вольнага бытаваньня Беларускі Народ мае ня меншые, чымсь хто іншы.

І вось замест усе гэта зразумець і падаць шчыра руку помачы таму, хто ніколі

не забыу-бы зробленай у хвіліну бяздольля падмогі, тые с паміж польскага грамадзянства, каторые дарваліся да сякой-такой улады—карыстаюцца с кожнай аказыі, каб разварушыць гэтак мазольна будаваную лепшымі сынамі Польшчы і Беларусі арку згоды, а у душах пакрыуджаных пакінуць нездавольство, непрыязнь, а можа і хаценьне адплаты...

Гэткім чынам мы сядзім між двух агней. Мы ня шмат дзівуемся, калі розные варожые нам элемэнты з цемнай прошласьцю з расейскага табору, ня могучы інакш нам пашкодзіць, выліваюць на страніцах сваей прэсы провокацыйныя памыі, але мы дзівуемся і боль агартае душу, калі тые, с каторымі мы хочам жыць згодна і супольнымі сіламі будаваць нашую дзержаунасьць, каменьне нам пад ногі кідаюць...

Няхай! І гэта перэтрываем. Але калі адпіхаюць руку працягнутую дзеля згоды, дык гэтая абраза будзіць у душы працягнуушага яе нясмываемую горкасьць, ад каторай скрыгатаюць зубы.

Апамятайцеся вы, каторые верыце толькі у сілу штыка, каторые ня збудзіліся ад сваіх сноу аб анэксыях!

*Ф. А.*

## Хто нам спачувае.

Кожны чалавек болей усяго адчувае сваю асабістасьць тады, калі ен знаходзіцца паміж чужымі людзьмі. У чужой грамадзе болей выразна бачыш, чым ты розьнішся ад іншых. У вялікай людзкой групе болей-меней выдатные з іх стараюцца выказаць свае „я“, свае індывідуальнасьці.

На чужыне болей адчуваецца туга па бацькаушчыне. У чужым краю закаханьне да роднай зямлі павялічываецца у некалькі стопняу болей, чым дома.

Дзеля гэтага зразумела, што апошняя вялікая вайна,—калі дзясяткі і соткі тысяч прадстаунікоу розных народау зьмяшаліся на пазыцыях на чужых палех,—шмат дапамагла разьвіцьцю нацыянальнага парываньня і дадала энэргіі адраджэньню паднявольных народау.

Беларусы-уцекачы, жыушы пад час вайны у чужых краех па розных вялікіх абшарах бышай расійскай імпэрыі, так-сама з большым імпэтам і гарачнасьцю, як у сябе дома, пачалі пазнаваць, хто яны такіе і ладзілі, арганізавалі там розные беларускіе, нацыянальные гурткі.

Так-сама на усіх фронтах, сярод салдацкіх мас розных народнасьцяу, ваякі-беларусы рваліся усей душой да фармаваньня сваіх нацыянальных часьцей. У некаторых мейсцох, як на Румынскім фронце, на Украіне і інш., такіе спробы часова удаваліся. Але нам пастаянна перашкаджалі. Вайсковые загадчыкі бышай пануючай расійскай нацыі гэтага не хацелі. Яны не маглі адчуваць жаданьням слабейшага падняволенага імі народа.

Гэтак было і пры Керанскім і пры бальшавіках. Як ні дамагаліся беларускіе салдаты формаваньня сваіх нацыянальных часьцей—іх не дапускалі.

У гэтым кірунку шчыра і горача пайшлі нам на сустрэч толькі лепшые сыны польскага народа з яго дзяржауным начальнікам, Язэпам Пілсудзкім, на чале.

Лепшые прадстаунікі таго народа, каторы сам жыу пад цяжкім ярмом доугі час, нас зразумелі і колькі мага нам дапамагаюць у нашай сьвятой справе—у утварэньні нашага войска.

Польская запраудная дэмокрацыя не забыла таго часу нашай мінуушчыны, калі мы жылі разам цэлые соткі гадоу, калі у нас істнавалі агульные інтарэсы, агульные традыцыі і агульная доля-нядоля у нашым абаюдным жыцьці.

І вось, беларускі народ, прымаючы усе гэта пад увагу, павінен даверацца лепшым сыном Польшчы, каторые яму спачуваюць. Не на усход мы павінны глядзець, а на блізкі нам па духу заход. Мы павінны пры дапамозе лепшых сыноу Польшчы будаваць сваю будучыну.

Мы павінныісьці з тым, хто нас разумеіць, хто нам спачувае. Мы павінныісьці з тым, хто, без абяцанак-цацанак, першы паможа нам рабіць тое, чаго мы усімі сіламі дамагаліся. Гэта — утварэньне нашага нацыянальнага войска.

*Б.*

# Да вясковых багатыроу.

Надта ужо многа гаворыцца у месьце аб абагацеушай у часе вайны нашай весцы. Бяз конца гутаркі аб тым, што цяпер вясковые людзі фунтамі мераць грошы, што бытцам гатовы хатніе сьцены абклеіваць „паперкамі“, што грошы гніюць, мышамі ды пацукамі паедаюцца. Чуваць, што на весцы цяперашніе дзецюкі і глядзець ужо ня хочуць на дзяучыну, калі яна ня мае прынамсі 10 тысячау рублеу пасагу... Усяго навет не пауторыш, што у месьці гаворыцца аб вясковым багацьці. Ува усіх гэтых гутарках вельмі часта відаць зайздрасьць. Напалову або і зусім галодные жыхары гарадоу зайздруюць весцы яе сытасьці і зьбяражоных там у час вайны грошэй. Зауседы да гэтай зайздрасьці далучаецца яшчэ злосьць і абурэньне, моу самалюбства спатыкаецца глауным чынам на весцы, а жыхары гарадоу дык чыстые альтруісты. З гэтага відаць, якая неразумная рэч нарэканьне места на веску. Што каму гэта поможа? Нічагусенькі ды нікому. Трэба ужо кінуць гэтые нарэканьні і глянуць на справу інакш. Я не кажу аб тым, ці можна ці не, вінаваціць вясковых багатыроу у спэкуляцыі, хціваьсці і г. п. Пэуне, што сякі-такі у гэтым вінаваты, але не аб тое нам ідзе. Мы—народ глауным чынам селянскі і мы цешымся, што нашая веска багацее. І я лічу патрэбным прыпомніць нашым братом на весцы той вялікі абавязак, які цяпер яны павінны споуніць. Веска наша з другога боку бедная, бо яна мае шмат сваіх вельмі пільных патрэб, якія трэба будзе хутка споуніць. Беларуская веска мала мае школ, а яны для нас, для народа, тое, што дла чэлавека паветра. Ведама, што трэба дамагацца, каб урад давау грошы на школы, але *ні адзін народ не падняуся да самабытнага жыцьця без ахвяр і падмогі яго сыноу*. Давайце грошы на школьную асьвету, падтрымлівайце нашае маладое вучыцельство, каб не знало голаду ды холаду. Ня толькі вучыце сваіх уласных дзяцей, не забывайце і аб вясковых сіротах, пасылайце іх так сама у школу. Купляйце кніжкі і усялякіе падручнікі, каб навука йшла добра. Рабіце на сходах пастановы аб тым, каб адчыняць бальніцы, прытулкі для дзяцей. Есьць у нас паветы, у якіх есьць *толькі адна* бальніца! Трэба, каб было болей, чымсь цяпер дактароу. Калі будуць на гэта грошы, дык знойдуцца дактары, якіе з ахвотай паедуць на веску і дзеля гэтага людзі будуць здаравейшые. А нашае скацінка, якой цяпер пасьля вайны маемо так мала, ці-ж не патрэбуе вэтэрынарскай апекі? Вось і дзеля гэтага не шкадуйце грошы. Доктар і вэтэрынар будуць неяк вашымі слугамі і прынясуць вам вялізную карысьць. Закладайце коопэратывы. Арганізуйце на весках народные бібліатэкі, каб людзі чыталі нашые беларускіе газэты і тыдневікі. Тварыце зьберагацельные касы, каб грошы не марнаваліся.

Вядомая рэч, не забывайце і сваю родную маці—зямельку. Не шкадуйце грошэй, каб гаспадарка у вас ішла добра. Дзеля гэтага трэба машынау, гноя у, добрых зернят... На усе гэта не жаль грошэй. Асушайце балоты, сейце лясы, наладжывайце рыбалоуные гаспадарствы, рабіце сыры, стауце вульлі і г. п.

Калі вашые грошы пойдуць на гэтакіе жыцьцевые патрэбы, дык ніхто не пасьмее сказаць, што вам грош карысьці ня прыносе.

**Кс. У. Талочко.**

## Нашы песьняры



*Цішка Гартны.*

## Дунулі сіверы...

*Дунулі сіверы с поуначы,*
*Кроу касьцянела у жылах;*
*Людзі, благаючы помачы,*
*Шлі за німашто у магілы.*

*Выскачыу вецер палудзенны,*
*З ім—і вясеньніе шумы;*
*Дрогнулі сэрцы разбуджэны,*
*Ударылі у сьветлые думы.*

*Міла цяпло расплываецца,*
*Легка жывеліне усякай,*
*Зеленей ніві усьмехаюцца,*
*Хмарау на небе ні знаку.*

*Шаты паусюду нядзельные,*
*У песьнях вялік дзень чуваці,*
*Згінула доля бязцэльная,*
*Сонцэ над хатай і у хаце.*

*Думалі душы ужо вольные—*
*Дні усешчасьлівасьці блізка,*
*Дый знаць гаротным бяздольнае*
*Суджэна з роду, с калыскай.*

*Дунулі сіверы с поуначы,*
*Кроу касьцянее у жылах;*
*Людзі, благаючы помачы,*
*Сходзяць безчасна у магілы.*

Вільня. 7/XII—09 г.

**Янка Купала.**

## Закляты скарб.

*Месяц сьвеціць, месяц зьяе,*
*Луг брыльянтам акрапляе.*
*Ветрык грае на раздольлі,*
*Ен калышыць жытне поле.*

*Жыто шэпча, штось лапоча,*
*Кажыць казкі сярод ночы.*
*Ля высокай крушні белай*
*Скача хохлік ашалелы.*

*Там над крушняй скарб закляты,*
*Скарб таемны і багаты.*
*Ад людзкога злога вока*
*Скарб схаваны там глыбока.*

*Пры ім хохлік—дух упарты*
*Службу служыць шчырай вартай.*
*А над хохлам там варона*
*Паглядае на староны.*

*Над варонай глядзяць совы*
*З зеляненькай там з дубравы.*
*Чарауніца соу цікуе,*
*Чарауніц там бес пільнуе.*

*Як кур першы засьпевае—*
*Туман поле атуляе.*
*Як другі кур засьпевае—*
*Там пануе ціш нямая.*

*Як кур трэці засьпевае—*
*Цар-зарніца ужо палае.*
*Пяюць птушкі пад зарніцай,*
*Плачуць кветкі у расіцы.*

*Потым сонцо увасходзіць,*
*Дзед сівенькі у луг выходзіць.*
*Ен пастушак сваіх клічыць,*
*У лагчыне стадо лічыць.*

*Вось на крушні ен сядае,*
*Сам старэнькі, а ня знае,*
*Што пад крушняй скарб закляты,*
*Скарб таемны і багаты.*

**Ясакар.**

Пасадзец, лето, 1919 г.

* * *

Ахвярую Владзі.

*Летня ночка. Шлях між лесу.*

*Коні тупаюць нагамі.*

*Ціш. Скрозь цемную завесу*

*Зоркі сьвецяцца над намі.*

*Сьпіць усе. А мы з табою*

*Ня змружаем сваіх воч.*

*Пад шэпт соснау між сабою...*

*Ці ты помніш гэту ноч?...*

**Ю. Ф.**

Менск
23/VII—1919.

# Гусьляр.

Ой, гусьляру сівавусы, ой, сьляпы дзядуля! Наладзь гуслі старадауны, сказы раскажы нам, як жывом і паміраем у сваей старонцы, як жывом і паміраем на чужой старонцы; як век кожны новым зьдзекам Беларусь крыжыюць. Наладзь гуслі—хай зайграюць на гарах, далінах. Хай зайграюць песьняй-плачам, каб усе пачулі.

* * *

А Зьмітра старога ня трэба прасіці, ня трэба клікаці на гутаркі-сходы. Ен усюды бывае, ен добра усе знае: як рэчка сьпявае, як стогнуць сыр-боры, як горкі шапочуць, як моліцца траука, як небо у пажары зарніца фарбуе. Як плача дзяучынка па хлопца любога, як тужыць сіротка над матчынай трунай. Як скачуць вясельле, дажынкі сьпяваюць, як горо-нядоля ратая спаткаець.

І любіць бяз конца свой край стары Зьмітро...

Ня гусьлявы струны, а струны у сэрцы, як воклічы у пушчы, гудзяць і іграюць. На кожнае горо, на кожную радасьць знаходзіцца водгук у сэрцы старога. У словах у шчырых, у думках паважных жыцьце бье крыніцай, жыцьце беларуса. Бы сэрцо народа цалюткага краю у грудзях яго бьецца у любові вялікай. І дух яго зьяе, дух роднай зямелькі, і грэіць бяз конца убогіе вескі... А словы, як кветкі радзімай лагчыны, квітнеюць, чаруюць і вабяць пякнотай.

Ня мае народ наш у жыцьці пацехі, дык мае пацеху у песьнях натхненых...

* * *

А гуслі у Зьмітра ня золатаструнны. Ня носіць з сабою іх стары дзядуля—па цэламу краю іх многа, ой, многа... Куды-б не прышоу ен—на перадзі гусьлі. Іх ветрык у жыце шапотным хавае, жауранкі на скрыдлах нясуць над ральлею, іх плоткі у вадзіцы нясуць пад вадою, начлежнік іх мае з сабой а поуночы. Іх мыюць расіцы, хаваюць туманы. Русалкі іх туляць да вуснау дзявочых. Мяцеліцы у зімку іх грэюць пад сьнегам. Лясун іх на дубу высокім трымае. Працягнуты струны ад сосны да сосны, ад рэчкі да рэчкі, ад горкі да горкі. На'т у комінах чутны гусьляравы сьпевы, як вьюць ваучышчы у калядные ночы.

Чароуные гуслі у Зьмітра старога...

* * *

То ня буры, не віхоры гнуць вярбіны у доле. То ня сокал у чыстым поле скрыдламі махае. То



Сябры Беларускай сэкцыі Культурна - Прасьветнага Саюза вучняу Горадзкіх гаспадарскіх школ.

## Выбар.

Валасны старшыня, я забыуся як зваць,
Нек наважыу вучыць свайго сына,
Во й пачау да яго гувэрнэрау зазываць,
Іх есьць шмат—ды ня у гэтым прычына:
На цану між сабой не зыйдуцца ніяк;—
Гдзе-ж! заломе другі, як ашпарэ,
Трэба сельскага брац, ен вучыцель так-сяк
І нішто сабе відна па твару.
Вось нарэшце й таго старшыня клікнуу раз,
Пару слоу с сынам той перакінуу.
—„Я за працу сваю вазьму. кажа, я з вас—
(Старшыня ажно ляпу разінуу)
Рублеу трыста....—„Ого! Гэтак многа аддаць!"—
—„Менш ня будзе, шмат трэба прынукі:
„Хлопец, гляньце, жаніх, цяжка будзе уламаць
„І нездатны, гультай да навукі."
—„Але-ж, мой ты сваток,—гэта-ж трыста рублеу
„Не маленькая лічба у шчоце,
„За яе я куплю, каб я так быу здароу
„Жарабца,—ды якога у ахвоце!
— „Ну й купляйце сабе, мне спрачацца ня след
„Спагадаю я вам гаспадару,
„І прынамсь, старшыня, выбачай за адвет
„Жарабцоу тады мець будзеш пару!"

**Альбэрт Пауловіч.**

ня бьецца у хату-пустку падарожнік бедны.—Наша сэрцо расчуляе песьняй стары Зьмітро:

* * *

„Народзе сялянскі, народзе убогі, атуляны горам, спавіты нядоляй! Жывеш для чужых ты, для іх паміраеш, аб гэтым ты сам-жа нічога ня знаеш!

„Скажы. для каго ты арэш свае поле? Скажы, для каго ты гнеш карк свой балючы? Каму свае песьні ты зычна сьпяваеш? Аб кім ты гаруеш, аб кім ты бядуеш? Усе у чужынцау ты парабкам служыш... Глядзі—твае поле крывею пакрыто, узарано гарматай, засеяно сьмерцьцю. Сыны-небаракі ляжаць у магілах у родным пясочку і нівах чужацкіх. На могліцах ветры хаутуры там ладзяць. Пажоуклые косьці дажджы абмываюць. Халоднае сонцо курган азарае. Пауночные цені курган атуляе.

* * *

„То сотнямі тысяч ратаяу ляглі там і прэюць зямлю без пары. За што яны білісь, каго баранілі, не знаюць і самі яны... Дубэ маладые, краса наша радасьць. Ой, зрэзаны вострай пілой. Пахучые кветкі зяленага поля сарваны чужою рукой... І маці старая бьець грудзі аб камень, і корчыцца з плачу стары. Так ластаука бьецца над гнездам разьбітым, да Бога шле скаргі свае... Задумна у поле глядзіць сірацінка. Дзе тата?—пытае яна. І рукі ламае, маучыць маладуха—усе высахлі сьлезы яе. У явары часам з падстрэляным скрыдлам так качачка ціха сядзіць. Так скошана траука і вяне і сохне, на лузе шырокім ляжыць.

* * *

„Народзе убогі! Бог дау табе сілу, а хто спажывае яе? Народзе сялянскі! Бог дау табе жыцьце, каму ты яго аддаеш? Ачніся! ачніся! у даль азірніся! Для краю свайго пачні жыць! Ратунак ня прыдзе табе ад чужога—будзь панам ты сам над сабой!"

* * *

І стары той Зьмітро, ох, стары дзядуля. Мне бабка старая аб ім гаварыла: яна шчэ малая была,—добра помніць,—што Зьмітро тады ужо, як лунь той, быу сівы. А дзеці малые на прызьбе шапочуць, што дзед гэты сотак гадоу колькі мае. Яго і ніколі ня возьме магіла, бо есьць у яго сэрцы чароуная сіла.

* * *

Ці ведаюць людзі, што сіла ня у дзеда, а у песьнях бязсьмертных, у песьнях гусьлярскіх.

Менск, 1918 год. **З. Бядуля.**

## Хвейнаму другу.

*Але, ну так, але, але,—*
*Мы усе яшчэ у няяснай ймгле,*
*Наперад глянуць,—далі там*
*Няма, здаецца, жаднай нам;*

*— Па тэй дарозе, што ідзем,*
*Калоды. пні, завалы, лом*
*І страх, і жах глядзяць зусюль,*
*Няма палегкі ні адкуль*

*І сілау нам здаецца брак...*
*Усе так, усе так!—Але-ж, аднак,*
*Пазбудзь трывог душы сваей.*
*Няхай пануе вера у ей,—*

*Глядзі: ідзем мы не адны*
*Шукаць дабра для стараны.—*
*За намі рушылі яны,—*
*Зямлі радзімае сыны!*

* * *

*Яшчэ ня спау з іх дауні сон,*
*Ня прэціць ім кайданау звон,*
*Ня вытхнуу з іх ганебны дух*
*Рабоу адданых, верных слуг*

*І можа быць, што, раз, ізноу,*
*На дауніх трапіушы паноу*
*Ім паднясуць свае дары,—*
*Нічога, гэта да пары!*

* * *

*Нясьмелы крок іх і цяжкі,*
*Дык ен і мусіць быць такі,*
*Бо гэта толькі першы крок...*
*Прыпомні як вясной паток*

*Здаецца слаб, здаецца хіл,*
*Здаецца ен ня мае сіл*
*І часта як тамуе бег*
*Яго весьняны рыхлы сьнег.*

*Аднак, што далей, то сьмялей*
*Бяжыць паток, шырэй, глыбей*
*І хлусіць з рожных перашкод*
*Ен сілай всд... Як ен—народ!*

**А. Гарун.**

*Менск, у Верасні 1919 г.*



# Казкі не для дзяцей.

*Было-б гэта сьмешна, каб не было гэтак сумна.*

Было гэта ня у Менску, не!..

А было вось як:

Прыйшлі. Дзьверы былі зачыняны, бо гэта быу нерабочы дзень,—была нядзеля. Паклікалі майстру да адчыняньня зачыняных дзьвярэй. Ен адчыніу. Пачалі гаспадарыць як у уласнай хаце. Шуфляды столікау неузабаве глянулі на гасьцей сваімі расчыненымі губамі, а з іх палілася вялікай рэчкай хваля рахункау, квіткоу, спіскау абвесткау, спіскау прэнумэратарау, а глаунае—аутарскіх рукапісау... Госьці купаліся. Брр!.. Добра!.. ух!.. Давай пару! Давай яшчэ...

Але мала было.

Пайшлі далей...

Пакінуушы у дзьвярэй цэрбэра з рушніцай, пайшлі далей купацца у жывой вадзе беларускага друкаванага і рукапіснага слова...

Нехта хацеу прайсьці міма цэрбэра...

— *„Нельзя“!*

Стары знаемы кліч, знаемы голас...

— „Нельзя!.. Быть по сему!.. Там разберут!.. Разайдись!“...

Старые знаемые клічы...

— Чаму не адказываеце па нашаму?

— Ня умею.

— Дык кажэце да нас мовай тых людзей, якіе вас тут паслалі...

— Тоже ня умею...

Пайшлі далей купацца...

Там ужывалі!

Морэ рукапісау!

Тут і пісьмы памершых аутарау да жонак, тут нясконченыя драмы, абрыукі вершау, праэкты граматыкі... Старые рахункі...

Купайцеся!..

Пісьмы с турмы царскіх часау... Пісьмы перачыркнутые на крэст вастрожнай цэнзурай...

Можэ гэты знак будзіць у душы гасьцей нейкую сымпатыю да тых, чыя рука ставіла сваю печатку на вастрожных пісьмах, можа пазнаюць яны сваіх сваякоу?..

А можа не?..

А можа так?..

Прыйшлі, зрабілі тое, што хацелі, пайшлі...

Бо мелі рушніцы у руках, мелі на сабе нейкіе значкі, якіе кажуць:

— Сягоньня я тут гаспадар!..

Калі у хату увойдзе „госьць“ і кажа: я тут гаспадар,—трэба уцекаць с хаты і крычаць:

— Людцы добрые! ратуйце!..

Але тые, да каго прыйшлі госьці, па стараславянскі пакланіліся ім ніжэй пояса і кажуць:

— Людцы добрые, госьці дарагіе! Мейце літасьць!.. Што трэба вам—бярэцэ.. Але не раскіньце па сваіх канцэлярыях гэтае „сьмяцьце“-паперкі, бо тут частка душы нашай, нашай культуры!..

Госьці прыйшлі, пайшлі,—ці вернуцца?..

---

Было гэта ня у Беларусі, ня у Менску, не!..

Было гэта далека адсюль, за трыццацьцю рэкамі і за трыццацьцю гарамі...

Можа на палех дзікай некультурнай савецкай Расіі, а можа яшчэ далей... у якойсьці афрыканскай рэспубліцы...

Дзе?.—Людзі добрые, згадайце!

**Пр. Лябеда.**

# На вуліцы.

Спатыкаюся на вуліцы с знаемым...

— Здароу!

— Здароу!..

Падаю руку. Мой знаемы неяк комкаецца, капошыцца, хапаецца за рукавіцу, адшпілівае гузікі..

— Выбачайце... „ізвініте“...

Я стаю с працягнутай рукой і стараюся успомніць, які я у жыцьці сваім зрабіу неганаровы чын, што мой добры знаемы ня хоча падаць мне сваей рукі.

Нарэшчі з рукавіцы выглянуу вялікі спацеушы палец і мой знаемы, падаючы мне наканец сваю руку, з вінаватай мінай сказау:

— „Ізвініте... Здрасьце“!

Я тады успомніу, што падаць руку у рукавіцы лічыцца зьневагай. Калі-ж хаця адзін вялікі палец правай рукі высунуты на паветры—тады абразы ужо ніякай няма.

Я успомніу, што разам з іншымі налетамі з усходу прышчэпуся у нас і гэты усходні—„этыкет“...

Успомніушы гэта, я на разьвітаньне не падау ужо свайму знаемаму рукі, але скрабаючыся рукой за правым вухам ды высунуушы язык і зрабіушы прыемную усьмешку, нізка пакланіуся на разьвітаньне. *)

Я у сваей „этыкеце“ зайшоу далей на усход чымсь мой знаемы.

**Фр.**

---

*) звычай у Кітаі.



# БІБЛІОГРАФІЯ.

**„Апошняе спатканьне“**, драма у 4 актах Уладыслава Галубка, 43 страніцы, цана 75 коп.

Рэцэнзіі аб гэтай рэчы Галубка, надта характэрнай для яго творчасьці, у сваім часе ужо зьяуляліся у беларускіх часопісах, калі яна, яшчэ нядрукаваная была на сцэне.

Літэратурные крытыкі прынялі яе спакойна, затое сучасная тэатральная публіка вітала драму з асабліва радасным захапленьнем.

Можна спадаявацца, што думкі літэратурных крытыкау аб драме ня зьменяцца і цяпер, калі зручней разгледзіцца па друку у яе літэратурных вартасьцях і заганах; тэатральная-ж правінцыя напэуна парупіцца выпісаць цікаую навінку, раней ей недаступную.

Драма „Апошняе спатканьне“ мае у сабе болей ад тэатра чымсі ад літэратуры... Яно й зразумела, калі успомніць, што драма—сьпешная аутарская перарабка колішняга апавяданьня, споуненая для войстрых патрэб беларускага рэпэртуара пры далека неспагадных для праудзівай творчасьці умовах жыцьця.

З тэатральнага боку драма сцэнічна, цікауна, даволі бойка і навет эффэктна. Эффэктау і для нашых буйных часоу там даволі: удсваль „мяцежнасьці“, стрэлау з чорных рэвальвэрау, „жупельнай“ славеснасьці, а у астатнім акце стаіць шыбеніца і выходзіць увесь-чыста чырвоны, у мазцы кат.

З літэратурнага боку пьеса маець дзьве грунтоуных заганы, не кажучы аб драбнейшых: 1) няма патрэбнага ядзінства у разьвіцьцю падзей, 2) няма патрэбнага драматызму, і яго трэба адкапываць с-пад громазду нічога нявартых без яго эффэктау.

Што меуся паказаць драматург? Ці драму асобы на фоне нацыянальных і соцыяльных зол, ці драму усяго прыгнечанага беларускага сялянства, драматызм *усяго жыцьця*? Калі першае—то мала ен паказау; калі другое,—то гэта ня можна паказаць ні „мяцежнымі“, ні сьлезна-жаласнымі рэплікамі дзеючых асоб.

З боку мовы—найлепшы твор Галубка. Чуецца старанная адшліфоука, есьць праудзівае, шчырае чуцьце у словах многіх прыгожых кавалачкау. Есьць, аднак, і такая фраза: „Ідучы вуліцай за мной шпег ні у знак цікауся, я яго згледзіу“... Калі гэта не каррэкарскі недагляд, ня можна дапусьціць такога сіктаксіса і такога пакарочаньня прыдатковых фраз... Прауда і няумірушчы „Тарас на Парнасе“ маець *народны* сінтаксіс у радкох:

Хадзіушы на гарэ Парнасскай,
Мне дужа захацелась есьць,—

але у вышэй пісаных Галубковых радках—нешта ня тое. Карыстаем з прыгоды, каб напомніць нашым філелегам, што дагэтуль яшчэ школы нашыя ня маюць надта патрэбнага беларускага падручніка—сінтаксіса. А беларускім пісьменьнікам скажам, што дауно мінуліся тыя парадкі, калі адказнасьць за чыстату і граматычнасьць іх мовы брау на сябе рэдактарскі штамп „Нашай Нівы“.

Не пераказуем, аб чым пішацца у „Апошнім спатканьні“, уважаючы, што кніга так танна, што кожны зацікаулены ею парупіцца яе выпісаць (Вільня, Завальная, 7, Беларускае Выдавецкае Таварыства).

М. Г.





**Ад Рэдакцыі:**

*Пачынаючы ад гэтага № 22 „Беларускае Жыцьце“ будзе выхадзіць у Менску.*

**Адрэс Рэдакцыі: Друкарня Інвалідау (Архірэйскі зав. 5).**



**ПРЭНУМЭРАТА КАШТУЕ** (з дастаукай да хаты): на адзін год—24 м., на 6 мес.—12 мар., на 3 мес.—6 мар.

Рэдакцыя і адміністрацыя адчыняны штодзень ад 5 да 6 у веч,

Рэдактар і выдавец **Францішак Алехновіч.**

З дазв. вайск. цэнзуры № 22, 11/XII. Менск. Друкарня Інвалідау.